# РЭКЛАМА Ў «ЗВЯЗДЗЕ»— ШЛЯХ ДА ПОСПЕХУ

КАНТАКТ

**У гэтым лёгка могуць пераканацца кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый, калгасаў і саўгасаў, кааператываў, малых прадпрыемстваў, змясціўшы інфармацыю аб сваёй прадукцыі ў старэйшай беларускай газеце.**

**Газета «ЗВЯЗДА» прапануе вам сваю дапамогу не толькі ў арганізацыі і афармленні рэкламы, але і ў пошуку партнёраў для супрацоўніцтва і ўзаемавыгадных здзелак, выпуску святочных буклетаў, спецыяльных газетных выпускаў.**

**ЖУРНАЛІСТЫ ГАТОВЫ стаць вашымі кансультантамі і партнёрамі. За даведкамі і кансультацыямі ЗВЯРТАЙЦЕСЯ ПА ТЭЛЕФОНАХ 32-35-91, 32-51-05 ці ПІШЫЦЕ ПА АДРАСУ: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 77, рэдакцыя газеты «Звязда», разліковы рахунак 700824 у рэспубліканскім Жылсацбанку (для «Звязды») МФО 400019.**

**Аб'явы ад прыватных асоб для «Звязды» прымаюцца ва ўсіх даведачна-інфармацыйных кіёсках «МІНГАРДАВЕДКІ», а таксама спецыялізаванымі службамі па адрасах: вул. Ленінградская, 4 і вул. Камсамольская, 15 у Мінску. Аналагічную інфармацыю прымуць таксама па тэлефонах «Мінгардаведкі»: 27-26-92, 27-26-83, 27-25-64, 27-26-03.**

## Цэнтр «Беларгснабпраект»:

# праектныя работы — хутка і якасна

Беларускі рэспубліканскі навукова-даследчы, праектны і ўкараняльны цэнтр арганізацыі працы, упраўлення і сацыяльнага развіцця (**«БЕЛАРГСНАБПРАЕКТ»**), маючы практычны вопыт правядзення навукова-даследчых і праектных работ, у кароткія тэрміны, з высокай якасцю можа выканаць для ўсіх зацікаўленых міністэрстваў, ведамстваў, прадпрыемстваў і арганізацый наступныя распрацоўкі:

**праектна-каштарысную дакументацыю** на будаўніцтва, рэканструкцыю прадпрыемстваў, бягучы і капітальны рамонт асноўных фондаў;

**прагрэсіўныя тэхналагічныя працэсы** перапрацоўкі і дастаўкі грузаў;

**праекты ўчасткаў** вытворчых паслуг;

**праекты АСУ** (АРМ эканаміста, АРМ таваразнаўца, АРМ бухгалтара);

**праектаванне сродкаў механізацыі** і нестандартызаванага абсталявання;

**распрацоўку норм часу,** выпрацоўкі і расцэнак, разлік працаёмкасці работ, фонду зарплаты, колькасці асноўных і дапаможных рабочых;

**праекты кантрольных лічбаў**, доўгачасовых эканамічных нарматываў і лімітаў, разлік эканамічнай эфектыўнасці і ацэнку мэтазгоднасці структурных перабудоў і іншых арганізацыйных рашэнняў;

**прагназіраванне сацыяльных працэсаў** на прадпрыемстве ў сувязі з пераходам да рыначнай эканомікі;

**ацэнку дзелавых і асабістых якасцей,** стылю кіраўніцтва начальнікаў аддзелаў, службаў прадпрыемстваў (арганізацый) і распрацоўку рэкамендацый па ўдасканаленню гэтых якасцей;

**сацыялагічнае забеспячэнне** пераўтварэння прадпрыемстваў (арганізацый) у акцыянерныя таварыствы, малыя або народныя прадпрыемствы, пераходу на арэндны падрад;

**ацэнку сацыяльна-псіхалагічнага клімату** і рашэнні па стабілізацыі працоўных калектываў;

**даследаванні грамадскай думкі** па актуальных эканамічных і сацыяльных пытаннях.

Па просьбе заказчыка могуць быць разгледжаны і іншыя прапановы.

Выкананне навукова-даследчых і праектных работ робіцца на аснове заканадаўства СССР, па дагаворных цэнах, якія, як правіла, ніжэй цэн, прадугледжаных агульнасаюзнымі нарматывамі, і ніжэй цэн на аналагічныя работы, якія выконваюцца інстытутамі іншых галін народнай гаспадаркі рэспублікі.

**ДЛЯ ЗАКЛЮЧЭННЯ ДАГАВОРА** неабходна накіраваць гарантыйнае пісьмо з пералікам цікавячых заказчыка распрацовак па адрасу: 220099, г. Мінск, вул. Казінца, 4, цэнтр «Беларгснабпраект».

Тэлефоны: 78-32-21, 78-03-44, 21-70-92.

# Дарагі таварыш!

**Запрашаем Вас на святкаванне 70-годдзя газеты БВА «ВО СЛАВУ РОДИНЫ».**

**Свята адбудзецца 29 чэрвеня 1991 года ў 12 гадзін на плошчы ля Мінскага Дома афіцэраў.**

**У ПРАГРАМЕ:**

- **Сустрэчы з камандаваннем акругі і ваеннымі журналістамі;**
- **Дыскусіі, абмен думкамі, кансультацыі ваенных юрыстаў і работнікаў ваенкамата;**
- **Знаёмства з ваеннай тэхнікай, тэхнікай ДТСААФ і грамадзянскай абароны;**
- **Музыка, песні, кінафільмы, сеанс экстрасенса-міжнародніка;**
- **Латарэя, абед у палявой кухні, ваенны гандаль;**
- **Выступленні армейскіх спартсменаў і воінаў-дэсантнікаў.**

# Да ўвагі будаўнікоў!

★ Прадастаўляюцца ЗАМЕЖНЫЯ КАМАНДЗІРОЎКІ для будаўніцтва энергетычных станцый, якое ажыццяўляюць спецыялізаваныя арганізацыі Мінэнерга СССР, у тым ліку і трэст «Белэнергабуд», у краінах Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі.

★ Ёсць магчымасць за 2—3 гады атрымаць ДОБРУЮ КВАТЭРУ. Тым, хто мае патрэбу, прадастаўляецца добраўпарадкаваны інтэрнат.

★ Сярэдняя ЗАРАБОТНАЯ ПЛАТА **складае 500—600 рублёў.**

УСЕ ГЭТЫЯ ВЫГАДНЫЯ ЎМОВЫ чакаюць тых, **хто прыйдзе працаваць у** Віцебскае ўпраўленне трэста «БЕЛЭНЕРГАБУД», якое створана на базе будаўнічага ўчастка БУ Лукомльскай ДРЭС для ўзвядзення аб'ектаў энергетыкі ў г. Віцебску.

НА РАБОТУ ЗАПРАШАЮЦЦА маладыя, прафесіянальна дасведчаныя спецыялісты, якія маюць вопыт будаўніцтва прамысловых аб'ектаў. Асобам з вышэйшай адукацыяй прапануюцца пасады прарабаў і майстроў, прымаюцца таксама цесляры-бетоншчыкі, электразваршчыкі, мантажнікі, муляры.

Трэст «Белэнергабуд» уваходзіць у склад канцэрна «Інвестэнергацэнтр», які, у сваю чаргу, працуе ў сістэме Мінэнерга СССР. Сёння трэст — буйнейшая будаўнічая арганізацыя з магутнай прамысловай базай, што дазваляе **яму ўзводзіць самыя** складаныя аб'екты энергетыкі. У гэтых умовах кожны мае ўсе магчымасці для рэалізацыі свайго творчага патэнцыялу і ўдасканалення прафесіянальнага майстэрства.

Даведкі па тэлефонах: Мінск — 33-44-62, Віцебск — 5-00-81, Навалукомль — 38-7-55.

ЭСКАРТ

## Вы маеце патрэбу ў рэкламе сваёй прадукцыі? Вы хочаце знайсці партнёраў у вашай дзейнасці ў краіне і за мяжой? Вам неабходна паведаміць пра важную падзею?

Усё гэта вы можаце ажыццявіць з дапамогай прыбалтыйскага філіяла творчага аб'яднання «Эскарт».

**«ЭСКАРТ»** у мінімальны тэрмін і на высокім прафесійным узроўні здыме па вашаму заказу відэафільм, падрыхтуе відэакліп, а таксама тэкставую рэкламу для тэлебачання і радыёвяшчання.

**«ЭСКАРТ»** размесціць вашу рэкламу ў зручны для вас час у такіх чытаемых у краіне і за мяжой выданнях, як газеты «Правда», «Известия», «Труд», «Комсомольская правда», «Московские новости» (як на рускай, так і на англійскай, французскай, іспанскай, нямецкай мовах) і інш., часопісах «Огонек», «Столица», «Мегаполис» і г. д. Акрамя таго, інфармацыя, якую вы жадаеце распаўсюдзіць сярод чытачоў пэўнага рэгіёна, без усялякіх клопатаў з вашага боку можа быць надрукавана ў абласных газетах еўрапейскай часткі Расіі, Урала, Сібіры, Далёкага Усходу.

**«ЭСКАРТ»**, варта вам толькі пажадаць, забяспечыць выхад вашай рэкламы ў эфір у любой тэлепраграме — «Час», «Добры вечар, Масква!», спартыўнай перадачы, трансляцыі канцэрта. З дапамогай сістэмы «Арбіта» вашу інфармацыю ўбачаць тэлегледачы ва ўсіх кутках Савецкага Саюза. Адкрыты для вас і радыёэфір станцый «Маяк», «Еўропа плюс Масква».

**«ЭСКАРТ»** — гэта надзейны мост паміж вашай фірмай і спажыўцом рэкламы.

Дадатковую інфармацыю пра магчымасці творчага аб'яднання **«ЭСКАРТ»**, а таксама ўмовы заключэння дагавораў з намі вы можаце атрымаць па тэлефоне ў Мінску — 99-14-15 з 9 да 14 гадзін.

АРГАНІЗАЦЫЯ НАБУДЗЕ ГАРАЖ, КАНДЫЦЫЯНЕРЫ.

Тэл. 97-31-19, 97-32-19.

## Тым, хто хоча быць прыгожым і прывабным!

**У ажыццяўленні гэтай мары вам дапаможа вучэбна-кансультацыйны цэнтр «ПРЫГАЖОСЦЬ І ЗДАРОЎЕ»,**

створаны Беларускім аддзяленнем БІО-ВТІ савецка-аўстрыйскага прадпрыемства «Знештрэйдзінвест» на базе Мінскай касметалагічнай лячэбніцы.

Цэнтр на базе лячэбніцы адкрывае платныя аднамесячныя курсы для медыцынскіх работнікаў (урачоў і медсясцёр). Заняткі праводзяцца па праграме, зацверджанай Міністэрствам аховы здароўя БССР. Пры заканчэнні курсаў выдаецца адпаведнае пасведчанне.

**СКОНЧЫЎШЫ КУРСЫ, ВЫ НАБУДЗЕЦЕ ПРАФЕСІЮ, ВЕЛЬМІ ПРЭСТЫЖНУЮ НА ЗАХАДЗЕ.**

Адрас: 220123, г. Мінск, вул. М. Горкага, 53, каб. 30, кіраўніку курсаў Лісіцыну Н. А., тэл. 34-99-13.

Даведкі дадаткова па тэл. 27-83-87.

# «Экспрэс-газета»

## Увага!

Вас чакае сустрэча з новым штодзённым рэспубліканскім рэкламна-інфармацыйным выданнем

**«ЭКСПРЭС-ГАЗЕТА»**

(заснавальнік — выдавецтва ЦК КП Беларусі). Першы нумар газеты выйдзе 18 ліпеня 1991 г.

Дыяпазон прадстаўленай тут інфармацыі будзе практычна неабмежаваны.

**«ЭКСПРЭС-ГАЗЕТА»**

мае намер прадставіць свае старонкі дзелавой, камерцыйнай і любой іншай рэкламе, усялякім, самым розным па тэматыцы, памерах, стылявому і мастацкаму афармленню, паведамленням і аб'явам.

Калі Вы збіраецеся рэалізаваць прадукцыю і вырабы, матэрыялы, тавары і ідэі, якія ёсць у Вас,— **звяртайцеся да нас!**

Калі Вам неабходна вырабіць, набыць ці абмяняць што-небудзь — **звяртайцеся да нас!**

Калі Вы маеце патрэбу ў аператыўнай інфармацыі аб камерцыйных мерапрыемствах і гандлёвых здзелках, біржавых аперацыях, таргах, выстаўках і аўкцыёнах, калі Вы хочаце атрымаць прафесіянальную кансультацыю і добрую параду — **звяртайцеся да нас!**

Калі Вы хочаце дабіцца максімальнага поспеху ад сваёй аб'явы, паведамлення ці рэкламы —

**звяртайцеся да нас!**

**«ЭКСПРЭС-ГАЗЕТА»**

— Ваш надзейны партнёр на шляху да рынку.

Мы прапануем свае паслугі ўстановам і арганізацыям, замежным фірмам і кааператывам, сумесным і малым прадпрыемствам —

**ВАША РЭКЛАМА — НА НАШЫХ СТАРОНКАХ!**

Мы прапануем свае паслугі і прыватным асобам.

Аб'явы аб абмене, куплі-продажы, кватэрныя праблемы і служба знаёмстваў, рэпетытарства, паведамленні аб маючых адбыцца сустрэчах саслужыўцаў, аднакурснікаў і аднакласнікаў, любая іншая інфармацыя, якую Вы маеце намер апублікаваць,—у найкарацейшыя тэрміны і па ўмераных цэнах

**АБАВЯЗКОВА** з'явяцца на нашых старонках.

**МЫ ВАМ ДАПАМОЖАМ**

— узаемавыгадна рэалізоўваць і набываць прадукцыю і сыравіну, вырабы і матэрыялы;

— атрымаць доступ да біржавай і камерцыйнай інфармацыі.

**«ЭКСПРЭС-ГАЗЕТА» мае намер:**

— прадастаўляць свае старонкі для прэзентацыі малых, сумесных і прыватных прадпрыемстваў, майстроў-умельцаў і асоб, якія займаюцца індывідуальнай працай; публікаваць вялікую рэкламу выпускаемых і рэалізуемых імі тавараў, сыравіны і абсталявання;

— выступаць гарантам у біржавых аперацыях і гандлёвых здзелках;

— прыцягваць высокакваліфікаваных спецыялістаў для аказання інжынерынгавых і маркетынгавых паслуг і аперацый па лізінгу, куплі-продажу і бартэру.

**У ВАС НЕ БУДЗЕ ПРЭТЭНЗІЙ!**

У Вас не будзе праблем, калі Вы станеце чытачамі, пакупнікамі і падпісчыкамі новага штодзённага рэспубліканскага рэкламна-інфармацыйнага выдання.

**«ЭКСПРЭС-ГАЗЕТА»**

— гэта газета для Вас!

Заўсёды з нецярпеннем Вас будуць чакаць па адрасу: г. Мінск, Ленінскі праспект, 79, Дом друку.

Час прыёму наведвальнікаў: з 8 гадзін да 17.30, абедзенны перапынак з 12.30 да 13.30.

Даведкі па тэл. 32-20-11, 39-87-39.

**Рэклама — рухавік гандлю!**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 28 чэрвеня

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**9.05.** «Погляд дырыжора». Фільм-канцэрт.
**9.35.** «Жывая планета». Дак. фільм. «Джунглі».
**10.20.** «Антарктычная аповесць». Маст. фільм. 3-я серыя.
**11.30.** Ленінградская студыя дак. фільмаў паказвае...
**16.30.** Экран дзіцячага фільма. «Капітан Саўры-Галава». 2-я серыя.
**17.35.** «Хвілін прыемных сустрэча». Фільм-канцэрт.
**18.00.** Моладзь і час. «Інтэрнат», «Прэлюдыя».
**19.00.** Панарама.
**19.30.** Наш каментарый. Кааператыўныя пакуты.
**19.35.** Зваротная сувязь. Па матэрыялах пошты рэдакцыі грамадска-палітычных праграм.
**20.20.** Персанальныя ЭВМ сёння і заўтра. Аб сучасных замежных інфармацыйных тэхналогіях і шляхах укаранення іх у эканоміку рэспублікі.
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «Анкета. Нататкі на палях», «Альтэрнатывы няма». Дак. фільмы.
**21.45.** На сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**9.00.** Маст. фільм «Марскі воўк». 4-я серыя.
**10.15.** ...Да 16 і старэйшым.
**11.00.** К. Хачатуран. Канцэрт для віяланчэлі з аркестрам.
**11.30.** Дак. фільмы «У дрымучы лес з таямнічым месяцам...», «Верш».
**12.00.** ТСН.
**12.15.** Інавацыя.
**12.30.** «Мапет-шоу». Лялечны фільм-канцэрт (Вялікабрытанія). 1-я і 2-я серыі.
**13.20.** «Дарога даўжынёю ў 150 гадоў». Аб акцёрскай дынастыі Садоўскіх.
**14.30.** Канцэрт рускага харэаграфічнага і песеннага фальклору.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** «Асеннія ранішнікі». Маст. фільм. 2-я серыя.
**16.25.** Свет захопленых. «Увага, здымаю!»
**16.40.** Фільм — дзецям. «Корцік». 3-я серыя.
**17.50.** «Мама, тата і я».
**18.20.** «Крот і транзістар». Мультфільм (ЧСФР).
**18.30.** ТСН. Міжнародны выпуск.
**18.45.** Прамая размова. «Сем дзён з жыцця прэзідэнта рэспублікі». А. Акаеў (Кіргізія).
**19.30.** Эстрадная праграма.
**19.45.** Маст. фільм «Марскі воўк». 4-я серыя.
**21.00.** Час.
**21.40.** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55.** «ВІД» прадстаўляе: «Поле цудаў», «Музагляд», «Справа», «Шоу-біржа», МТБ.
У перапынку **(0.30)** — ТСН.
**1.30.** «Дом ля дарогі». Фільм-балет па матывах твораў А. Твардоўскага.
**2.10.** Маст. фільм «Марскі воўк». 1-я серыя.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**17.00.** «Субяседнік». Інтэрв'ю з акцёрам Абаленскім.
**17.45.** «Невядомае золата». Дак. фільм.
**18.45.** Дзелавое інтэрв'ю.
**19.00.** Тэніс. Уімблдонскі турнір. Перадача з Англіі.
**20.00.** Весткі.
**20.15.** Добрай ночы, малышы!
**20.30.** «Сустрэча». Мастачка Л. Беспальчэй.
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.40.** На сесіі Вярхоўнага Савета СССР.
**22.30.** На сесіі Вярхоўнага Савета РСФСР.
**23.00.** Весткі.
**23.15.** «Пятае кола». Мастацка-публіцыстычная праграма.

### 29 чэрвеня

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Сустрэчы на арэне». Фільм-канцэрт.
**9.25.** «Бадзягі Поўначы». Маст. фільм.
**10.45.** «Журботная памяць». Тэленарыс.
**11.00.** Тыдзень планеты.
**11.15.** «Азірніся, развітваючыся...» Тэленарыс пра жыхароў вёскі Бранчыцы Салігорскага раёна.
**11.35.** Футбол. КІМ (Віцебск) — «Спартак» (Нальчык).
**12.25.** «Полацкі сшытак». Старадаўняя беларуская музыка ў выкананні школьнікаў.
**12.45.** «Асцярожна! Карасі!» Мультфільм.
**12.55.** Я і мы. Грамадска-публіцыстычная праграма.
**13.50.** Тэлебізнес. Клуб «Партнёр». Прамая лінія.
**15.20.** «Рассмяшыце клоуна». Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.
**17.30.** Ало! Ёсць пытанне. Сустрэча са старшынёй Савета Міністраў БССР В. Ф. Кебічам. Прамая лінія.
**19.00.** Панарама.
**19.30.** Асаблівы выпадак. Камароўскі рынак і «цяжкія» падлеткі.
**20.00.** «І яшчэ пра Белавежскую пушчу...» Тэленарыс.
**20.25.** Мультфільмы для дарослых. «Вынаходка», «Куфэрак».
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** У свеце мастацтваў. «Элегія», «Хохлаўка».
**21.45.** «Першая сустрэча, апошняя сустрэча». Маст. фільм.
**23.15.** Накцюрн. Іграе камерна-інструментальны ансамбль Беларускага тэлебачання і радыё.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**6.30.** Выступае фальклорнае трыо «Званы рускія».
**6.45.** Мультфільмы «Паданне пра Кудым-Ашу», «Сказ пра Пера-волата», «Стальны пярсцёнак». «Легенда аб старой арбе».
**7.30.** Рытмічная гімнастыка.
**8.00.** Ранішняя забаўляльная праграма.
**8.30.** ТСН.
**8.45.** Фільм — дзецям. «Пасля вайны — мір».
**10.00.** Пункт адліку. Прадпрымальніцтва і бізнес.
**10.30.** Ранішняя зорка.
**11.30.** Вобраз. Літаратурная перадача для старшакласнікаў.
**12.45.** Фільмы рэжысёра В. Шамшыева. «Выстрал на перавале Караш».
**14.30.** «Куміры». Спявае Жэня Белавусаў.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** Кінапраграма «XX стагоддзе. Хроніка трывожнага часу».
**16.50.** Да нацыянальнага свята Канады — Дня Канады. «Дзве мовы — адна краіна».
**17.35.** Мультфільм «Пчала Мая» (Германія — Аўстрыя). 4-я серыя «Мая ў мурашах».
**18.00.** Міжнародная панарама.
**18.45.** Міжнародны фальклорны фестываль.
**19.40.** Фотаконкурс «Зямля — наш агульны дом».
**19.45.** Маст. фільм «Пакуль вар'яцее мара».
**21.00.** Час.
**21.40.** «Шчаслівы выпадак». Сямейная тэлевіктарына.
**22.40.** «Успаміны аб песні».
**23.10.** ТСН.
**23.30.** Да і пасля поўначы.
**1.00.** Маст. фільм «Пакуль вар'яцее мара».

**Другая агульнасаюзная праграма**

**8.00.** Ранішняя гімнастыка.
**8.15.** Здароўе (з сурдаперакладам).
**8.45.** «НЛА: неаб'яўлены візіт». Перадача 12-я.
**9.45.** Відэаканал «Садружнасць».
**12.00.** Праграма тэлебачання Расіі. Відэаканал «Плюс адзінаццаць».
**14.00.** У свеце жывёл (з сурдаперакладам).
**15.30.** Выступае ансамбль «Зарайне» (Петразаводск).
**15.40.** Валейбол. Першынство сусветнай лігі. Мужчыны. Зборная Італіі — зборная СССР.
**16.45.** Спорт для ўсіх.
**17.00.** Невядомая Расія. «Балада аб няўдачніках». Пра жыццё і творчасць пісьменніка А. Зіноўева.
**18.00.** Дакументальны фільм.
**18.45.** Парламенцкі веснік Расіі.
**19.00.** Тэлепраграма «Сям'я».
**20.00.** Весткі.
**20.15.** Добрай ночы, малышы!
**20.30.** Тэніс. Уімблдонскі турнір.
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.40.** «Музычнае агенцтва». Вядучы — А. Троіцкі.
**23.00.** Весткі.
**23.15.** Спартыўная праграма.

## РАДЫЁ

### 29 чэрвеня

7.00 — «Радыёфакт». Ранішняя інфармацыйная праграма. 8.15 — «У нас у гасцях — часопіс «Вожык». 8.45 — «Музычная афіша». 9.15 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». Праграма «Радыёкантакт». 10.15 — на радыёхвалі «Арлянят». «Пытанні — дарослым». 10.35 — для маленькіх. Г. Чарказян. «Як ослік дапамагаў маме». Інсцэніраваная казка. 11.00 — «Фальклор». Радыёклуб. 11.30 — «Увайсці ў кожны дом». 12.00 — радыёстанцыя «Саюз». 13.00 — «З усмешкай». Гумарыстычная перадача. 13.40 — «Пры ўзаемнай згодзе». 14.00 — «Дзелавое добрасуседства». Перадача пра савецка-чэхаславацкае эканамічнае супрацоўніцтва. 15.15 — «Я родам з 45-га». Музычная праграма. 16.15 — «Рамантыкі». 17.15 — «З канцэртнай залы Полацкай Сафіі». Музычная праграма. 17.50 — «Чалавек. Аўтамабіль. Дарога». 18.00 — «У люстэрку падзей». Перадача на міжнародныя тэмы. 18.15 — «Знаёмае і незнаёмае». Канцэрт-загадка. 18.50 — «Машэрава, 21». Прафсаюзны веснік. 19.31 — А. Новік. «Бязлюддзе». Апавяданне. 20.00 — «Дзень нашага жыцця». 20.15 — вячэрняя казка. 20.30 — «Вячэрнія зарніцы». 21.00 — «Прэм'ера радыётэатра». «Тры дні з жыцця рэспубліканца Роберта Джардана». Радыёспектакль паводле рамана Э. Хемінгуэя «Па кім звоніць звон». Частка 1-я. 22.15 — «У вашу фанатэку». Эстрадная праграма. 23.15 — радыёстанцыя «Юнацтва».

## НАДВОР'Е

### 28 чэрвеня

**Усход, заход, даўжыня дня:**
**Мінск — 4.39, 21.45, 17.06;**
**Віцебск — 4.20, 21.43, 17.23;**
**Магілёў — 4.22, 21.34, 17.06;**
**Гомель — 4.35, 21.22, 16.47;**
**Гродна — 4.56, 21.58, 17.02;**
**Брэст — 5.06, 21.50, 16.44.**

Сёння па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы, па захаду месцамі град, шквалістае ўзмацненне ветру да 15—20 м/сек. Тэмпература паветра ў Мінску, Магілёве, Віцебску, Гродна — 25—27, Брэсце — 26—28, Гомелі — 27—29 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 29-га чэрвеня на большай частцы рэспублікі, 30-га — месцамі пройдуць дажджы. Тэмпература паветра ўначы 9—14, удзень — 18—23 градусы цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ,**
**інжынер-сіноптык.**

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ СЁННЯ Ў НУМАРЫ

Праект **Дагавора аб Саюзе суверэнных дзяржаў.**

**Сесія: дзень за днём.** Заметкі парламенцкага карэспандэнта С. Івановай.

**«Чарнобыль — наш агульны боль і клопат».** Да будучага пасяджэння савета міністраў замежных спраў СССР і суверэнных рэспублік у Мінску.

**«Вакол Джуны».** Урачы Н. Лайша і А. Чарняўская выказваюць свае думкі аб нетрадыцыйным лекару Джуне.

**«Яшчэ раз пра льготы і кампенсацыі».** Парадак прымянення рашэнняў СМ БССР, накіраваных на змякчэнне вынікаў павышэння рознічных цэн каменціруе намеснік міністра фінансаў рэспублікі Н. П. Корбут.

Гутарка з Марынай Паповіч, старшынёй Сусветнай асацыяцыі жанчын - вучоных: **«Вывучаючы НЛА, мы вывучаем сябе...»**

Чарговы выпуск **«У садзе і агародзе».**

Фільмы тыдня. Праграма тэлеперадач.

У канцы нумара.

**Галоўны рэдактар У. Б. НАРКЕВІЧ.**

НАШ АДРАС

220041, гор. Мінск, Ленінскі праспект, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».

**ТЭЛЕФОНЫ:** прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52; 32-41-92, рэкламы і аб'яў — 32-35-91, навін — 32-60-13.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні неабавязкова адлюстроўваюць пункт гледжання рэдакцыі.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

Тыраж 102.822.
Індэкс 63850.
Зак. № 125.

*Выходзіць 250 разоў на год.*

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12